# ПАШЛІ НАМ, БОЖА, ДОБРЫ ЎРАД



Ул. Караткевіч у адной са сваіх кніжак распавядаў легенду, паводле якой Гасподзь Бог надзяліў беларусаў благім начальствам, каб ім родная зямля раем не казалася. Ад той пары, нібыта, і няма ладу ў Беларусі.

Так яно было, ці іначай, але сёння, калі Беларусь апынулася на раздарожжы гісторыі, пытанне аб тым, якімі быць беларускім уладам, набірае ўсё большую вагу. Супярэчнасці грамадскага развіцця, знешнія і ўнутраныя цяжкасці нясуць у сабе небяспеку ўсобіц і канфрантацыі. **У пошуках пагадненняў і згоды палітычныя групоўкі, якія кіруюцца здаровым сэнсам, непазбежна прыйдуць, на наш погляд, да думкі аб утварэнні кааліцыйнага ўрада.**

Але нават калі і не браць пад увагу ідэю кааліцыйнага ўрада, справа функцыяніравання вышэйшай адміністрацыі застаецца вельмі важнай. Бо, па-першае, падзеі апошніх месяцаў упэўнілі нас у тым, **што суадносіны дзяржаўных паўнамоцтваў парламента і ўрада змяняюцца на карысць Савета Міністраў. Гэта тэндэнцыя ўзмацняецца з набліжэннем даты новых выбараў у Вярхоўны Савет.** Народныя дэпутаты ўсё больш заклапочаны сваім уладкаваннем пасля заканчэння парламенцкай кадэнцыі і ўсё менш — праблемамі дзяржавы, выбаршчыкаў. А гэта азначае, што народ застаецца сам на сам са сваім урадам. І жыць нашы людзі будуць так, як вызначыць урад.

Па-другое, якраз цяпер рыхтуецца праект новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і было б дарэчы прааналізаваць айчынны і замежны вопыт функцыяніравання вышэйшых дзяржаўных структур, спраецыраваць яго на патрэбы і ўмовы Беларусі. **Раздзел канстытуцыі аб урадзе павінен быць выкананы асабліва прадумана, па-майстэрску. Менавіта тут могуць быць закладзены падваліны палітычных гарантый супраць новага таталітарызму, дыктатуры.**

Дасведчанні савецкіх урадаў як на цэнтральным, так і правінцыяльна-рэспубліканскім узроўнях, на жаль, даюць занадта мала матэрыялу для будовы сапраўды дэмакратычных інстытутаў улады. Напрыклад, Савет Міністраў БССР ніколі не быў паўнамоцным урадам Беларусі, бо нават тая частка ўлады, якой Масква надзяляла мясцовыя органы, канцэнтравалася ў руках мясцовага партыйнага арэапага — Бюро ЦК КПБ, члены якога таксама вызначаліся ў Маскве. Выкананне абавязкаў старшыні ўрада рэспублікі даручалася аднаму з членаў Бюро. Савет Міністраў сваім існаваннем надаваў легітымнасць партыйна-адміністратыўнай сістэмё, а каціраваўся значна ніжэй ЦК. Дзейнасць міністэрстваў і дзяржкамітэтаў накіроўвалі і кантралявалі загадчыкі адпаведных аддзелаў ЦК, а міністрам заставалася роля паслухмяных выканаўцаў бюракратычнай работы.

Пераўтварэнне БССР у Рэспубліку Беларусь, натуральна, пацягнула за сабой нейкія змяненні ў дзяржаўным ладзе. Бліскавічнае знікненне з палітычнай сцэны КПБ, а затым распадзенне СССР утварылі вакуум улады, які запоўнілі сабой канстытуцыйныя рэспубліканскія органы — Вярхоўны Савет і Савет Міністраў. Вярхоўны Савет РБ, узяўшы на сябе заканадаўчую ўладу ў рэспубліцы, адмовіўся ад ролі палітычнай шырмы, пераўтварыўся ў працуючы парламент. Савет Міністраў жа механічна пераняў месца і функцыі былога ЦК. Урад пасля непрацяглага спаборніцтва з Вярхоўным Саветам сканцэнтраваў у сваіх руках ільвіную частку дзяржаўных паўнамоцтваў.

**Фармальна ўрадавыя структуры абвясцілі сябе беспартыйнымі.** Аднак грамадска-палітычная думка паволі прыходзіць да высновы, што **на палітычным небасхіле Беларусі ўзыходзіць новая кіруючая партыя — партыя адміністратыўных і гаспадарчых упраўленцаў.** Але пакуль яна не легалізавалася, урад прадстаўляе толькі самога сябе.

Тут няма сэнсу пачынаць дыскусію аб станоўчых і адмоўных рысах узнікшага стану рэчаў. На фоне палітычнага і эканамічнага развалу ў суседзяў Беларусь выглядае яшчэ не так блага, і гэты аргумент цяжка праігнараваць. Але відавочна і іншае: цяперашняе становішча дзяржаўных структур — часовае, пераходнае. **Першы ж палітычны альбо канстытуцыйны крызіс выявіць шматлікія прававыя і арганізацыйныя недарэчнасці ў дзяржаўным будаўніцтве Рэспублікі Беларусь.** Існуючыя парадак утварэння і рэгламент урада разлічаны на аднапартыйную палітычную сістэму. І калі б заўтра паўстала неадкладная патрэба замены ўрада альбо часткі яго членаў, парламенцкія фракцыі сутыкнуліся б з вялікімі цяжкасцямі ў «падборы і расстаноўцы кадраў».

У дзяржавах з дэмакратычнымі традыцыямі новы ўрад стварае той, хто перамог на выбарах: альбо прэзідэнт, альбо палітычная партыя, якая атрымала большасць у парламенце. Замежны вопыт прапануе два асноўных варыянта рэгламенту работы ўрада. У адным выпадку кіраўнік урада (напрыклад прэзідэнт у ЗША, альбо канцлер у Германіі) асабіста адказвае перад парламенам за дзейнасць усіх урадавых установаў і мае магчымасць аднаасобна прымаць рашэнні ў межах, адведзеных ураду канстытуцыяй. Пры такой, скажам, аўтакратычнай сістэме міністры — гэта вышэйшыя дзяржаўныя чыноўнікі і іх абавязак — выконваць даручэнні шэфа.

Другі варыянт рэгламенту дэманструюць Англія, Італія, Японія альбо, скажам, Францыя ў дадэголеўскі перыяд, дзе кабінет міністраў працуе як калектыўны орган, самыя важныя пытанні вырашаюцца шляхам галасавання. Члены ўрада тут ужо не чыноўнікі, а перш за ўсё — палітыкі. Кожны з іх асабіста адказвае перад парламентам, грамадскасцю і партыяй, якая яго вылучыла на гэту пасаду, за ўсе дзеянні, у якіх ён удзельнічаў. **Міністр-палітык хутчэй пойдзе ў адстаўку, чым падпішацца пад рашэннем, якое супярэчыць яго палітычнаму крэда.**

Замежны вопыт, канешне, не абмяжоўваецца толькі аўтакратычнай ці калектыўна-кансэнсуснай мадэлямі вышэйшай адміністрацыйнай улады. Ёсць нямала змешаных, пераходных варыянтаў. Які з іх прыдаўся б Беларусі ў сучасных умовах? Безумоўна, той, які б дапамог пазбіраць і мабілізаваць усе сілы, усе магчымасці краіны і народа на пераадольванне крызісу.

Нам патрэбны ўрад, які б меў дакладную праграму рэканструкцыі народнай гаспадаркі, які б быў гатовы пайсці на непапулярныя меры (а без часовага зацягвання паса нам з эканамічнага бедламу не выбрацца) і несці адказнасць за гэтыя меры, які б атрымаў на сваю праграму і яе ажыццяўленне згоду і давер большасці народа (а не толькі, скажам, чыноўніцка-дырэктарскага асяроддзя). Узначаліць урад народнага даверу можа толькі вядомы і аўтарытэтны дзеяч, а ў яго склад павінны ўвайсці людзі палітычна дасведчаныя, з незаплямленым жыццёвым шляхам, эрудзіраваныя, мужныя і з вялікім пачуццём адказнасці. **Гэта не абавязкова каманда аднадумцаў, суполка блізкіх людзей, але адзінай мэтай кожнага з іх павінна быць рэалізацыя праграмы выйсця з крызісу на ўзгодненых прынцыпах і метадах.** Урад павінен мець ліміт часу на выкананне агульнага задання, пасля чаго ўся каманда ў цэлым і кожны палітык паасобку нясуць адказнасць перад тымі, хто іх дэлегаваў, аказаў давер і падтрымку. І калі хтось з членаў урада адчуе, што дзяржаўная палітыка адхіляецца ад узгодненага накірунку альбо прынцыпаў, **то грамадскім абавязкам і справай асабістага гонару гэтага палітыка будзе запярэчыць і нават падаць у адстаўку.**

Абавязковымі элементамі працы такога ўрада сталі б галоснасць, інфармаванне грамадскасці аб галоўных кроках і намерах яго членаў, **адмова ад ценявой палітыкі.**

У сённяшніх умовах Беларусі, пакуль яна яшчэ не збалована дэмакратычнымі традыцыямі, адказны перад народам урад можа быць толькі кааліцыйным урадам. Механізмы ўтварэння кааліцыйных урадаў вядомы з замежнай практыкі: кансультацыі і пагадненні паміж асноўнымі палітычнымі сіламі краіны.

**Пасля новых парламенцкіх выбараў, калі толькі яны не будуць зфальсіфікаваныя, расклад палітычных сіл у парламенце не дазволіць стварыць аднапартыйны ўрад.** Правячая сёння групоўка наўрад ці набярэ абсалютную большасць галасоў, перашкодзіць ёй у гэтым перш за ўсё пагаршаючаяся эканамічная сітуацыя. І ўжо на першым пасяджэнні парламента ўзнікне пытанне аб нейкіх палітычных кааліцыях.

Але нельга выключаць і таго, што яшчэ да выбараў улада апынецца ў складаным становішчы (з прычыны, скажам, сацыяльнага канфлікту, ці палітычнага крызісу) і дзеля умацавання дзяржаўнага ладу спатрэбіцца дапамога іншых грамадска-палітычных сіл. Да шырокага блока з цяперашнімі апанентамі падштурхнуць улады магло б таксама зразуменне неадкладнасці рашучых рэформ. Такая сітуацыя здаецца малаверагоднай, аднак нельга яе не прадбачыць.

Ідэя кааліцыйнага ўрада была выказана яшчэ вясной 1992 года на I з'ездзе Партыі народнай згоды. Было прапанавана распачаць у рэспубліцы грамадскія кансультацыі, утварыць пастаянны грамадскі форум, дзе абмяркоўваць палітычнае і эканамічнае становішча, выпрацаваць і ўзгадніць праграму выйсця Беларусі з крызісу.

Палітычныя партыі цэнтрысцкай арыентацыі і некаторыя грамадскія аб'яднанні ўжо распачалі дыскусіі паміж сабой аб найбольш важкіх пытаннях беларускай рэчаіснасці. **Такія кансультацыі маглі б перарасці ў аўтарытэтны нацыянальны форум, калі б за стол перамоў селі прадстаўнікі ўрада, парламенцкіх фракцый, прафсаюзаў, прадпрымальніцкіх аб'яднанняў, навуковых установаў.** У абстаноўцы адкрытасці, галоснасці кожны ўдзельнік форуму мог бы адстойваць свае прынцыповыя пазіцыі, а ўсе разам шукаць шляхі да нацыянальнай згоды. Аптымальным вынікам форуму было б усебеларускае грамадскае пагадненне аб рэформах і агульнанародных намаганнях па пераадольванню цяжкасцей. А дзеля рэалізацыі пагаднення лагічна было б ад імя ўдзельнікаў форуму запрапанаваць парламенту рэспублікі праграму і склад кааліцыйнага ўрада — урада народнага даверу.

Абапіраючыся на грамадскія пагадненні, кааліцыйны ўрад без далейшых ваганняў мог бы рашучымі метадамі пачаць наспелыя эканамічныя пераўтварэнні, сканцэнтраваць матэрыяльныя і фінансавыя сродкі, а таксама намаганні народа на найбольш прыярытэтных накірунках гаспадаркі, пайсці, калі гэта спатрэбіцца, на часовае паніжэнне жыццёвага ўзроўню, запатрабаваць бясспрэчнай выканаўчай дысцыпліны ад усіх дзяржаўных установаў, ужыць жорсткія метады для вынішчэння злачыннасці і карупцыі. Папярэдне шырока абмеркаваная, узгодненая на форуме патрыятычных і дэмакратычных сіл краіны, такая палітыка была б застрахавана ад абвінавачванняў у таталітарызме, дыктатуры, ад падазрэнняў, што яна скіравана на карысць вузкай часткі насельніцтва, нейкай алігархіі. **Кааліцыйнасць улады гарантавала б вышэйшую нацыянальную мэтазгоднасць і часовасць радыкальных мер.**

Зразумела, што ўрад павінен атрымаць ад заканадаўчай улады на час выйсця з крызісу шырокія паўнамоцтвы. І трэба, на нашу думку, адмовіцца ад трактоўкі ўрада як «вышэйшай выканаўчай улады», бо гэта вызначэнне скажае яго ролю ў дзяржаўных структурах. Пры абсалютнай манархіі, ваенна-паліцэйскай дыктатуры альбо камуністычным ладзе ўраду сапраўды адводзіцца роля выканаўцы волі самадзержца, хунты альбо палітбюро. У дэмакратычных краінах і паводле канстытуцыі, і на практыцы ўрад дзейнічае ў рамках законаў самастойна. **Паўнамоцны ўрад — гэта вышэйшая палітычная ўстанова і галоўная адміністратыўная інстанцыя дзяржавы.**

Аднак у парламенцкіх колах Беларусі набірае вагу прыхільнасць да прэзідэнцкай формы дзяржаўнага праўлення, дзе права прынімаць палітычныя рашэнні ад імя дзяржавы належыць прэзідэнту. Ва ўмовах кволай дзяржаўнасці, неразвітасці палітычнай сістэмы грамадства, адсутнасці дэмакратычных традыцый прэзідэнцкае праўленне ў Беларусі — **гэта вялікая спакуса да дыктатуры асобы ці нейкай палітычнай групоўкі.** Прычым зусім невядома, у які бок адхіліцца палітычны компас у момант выбараў, хто зойме пасаду начальніка дзяржавы. У гэтым крыецца рызыка для ўсіх слаёў насельніцтва, бо іх згода на кожную палітыку, на кожныя ўмовы жыцця дасягаецца тады шляхам адміністратыўнага прымусу, насілля.

Добраахвотныя грамадскія пагадненні, дэмакратычны кааліцыйны ўрад куды больш падыходзяць памяркоўным і паслухмяным беларусам. Але ці ёсць шанцы аж на такі ўзлёт дэмакратыі ў нашай краіне? Да новых выбараў у Вярхоўны Савет — невялікія. Будзем спадзявацца, што пасля выбараў гэтыя шанцы значна ўзрастуць.

Леанід ЛОЙКА

# БЫТЬ БЫ БЮДЖЕТУ ДЕМОКРАТИЧНЫМ И НАУЧНЫМ

*(Окончание. Начало на стр.4)*

Принимая во внимание зарубежный опыт, представляются целесообразными некоторые коррективы в бюджетной практике нашей страны. Во-первых, в законе о бюджетной системе надо бы закрепить идею демократии, участия народа в бюджетном процессе. Во-вторых, в этом же законе следовало бы определить организационные формы оценки общественностью финансового плана государства. Это мог бы быть независимый экспертный совет из представителей ученых, предпринимателей, различных общественных организаций. Такой Совет, по нашему мнению, должен функционировать под патронажем Контрольной палаты Республики Беларусь. В-третьих, Верховный Совет должен определить требования, которым бы соответствовал представляемый для независимого аудита материал по проекту бюджета, в котором обязательно отражается прошлое, настоящее и будущее государственных финансов. При этом группировка данных и цифры должны быть доступны для широкого понимания, обобщенные данные подкреплены детализированной информацией, позволяющей судить о необходимости расходов в этом направлении и предлагаемом объеме. Воля народа не может быть сформулирована и выражена, пока общественность не располагает знаниями и о том, как правительство работало в прошлом, какова финансовая ситуация в настоящее время и какие практические шаги власти намерены предпринять, чтобы улучшить финансовое положение страны.

Самую серьезную и компетентную оценку предложенному правительством проекту бюджета дает Верховный Совет.

Именно парламентарии дают последнюю оценку того, как правительство смогло распределить средства между производственной и непроизводственной сферами, министерствами и ведомствами, территориально-административными единицами. Судить, насколько объективно при этом сделаны приоритеты,— дело исключительно сложное. Эффект «перетягивания одеяла», несомненно, в той или иной мере сказывается, правительство и парламент испытывают на себе давление со стороны представителей деловых кругов и социальных слоев населения, стремящихся к более интенсивному участию в распределении бюджетных ассигнований.

Противостоять этому давлению сложно, но возможно. Для этого те, кто принимает решения, должны располагать не только и не столько хорошо продуманной системой контроля, сколько фундаментальной теорией государственного бюджета. Такие теории в зарубежной экономической науке существуют, но у нас традиционный волюнтаризм в финансовой политике такие теории отвергал. Поэтому сегодня наша практика идет далеко впереди теории, но, как известно, эмпиризм не может служить прочным основанием для жизнеспособной политики. Только теория, но не ограниченная академическими исследованиями, а являющаяся руководящим инструментом принятия государственных решений, способна дать ответы на многие возникающие вопросы.

Приоритет общегосударственных интересов, о котором зачастую говорится в выступлениях официальных лиц по поводу финансовой политики, пока носит декларативный характер, поскольку не определено само понятие «общегосударственный интерес». А ведь каждая статья доходной и расходной частей бюджета, обсуждаемая парламентом и принимающая форму закона, должна вписываться в теорию государственных финансов. С этим согласится каждый, кто понимает значение финансового обеспечения экономических и социальных программ.

Чтобы сформулировать научную теорию, которая могла бы ответить на следующие два вопроса: на каком основании принято решение направить Н рублей субъекту А, а не субъекту Б; почему из 100 рублей дохода субъекта С ему оставлено 30 рублей, а 70 рублей государство изъяло на свои цели, — необходимо найти ответы на тысячи сопутствующих вопросов. На многие из них ответы есть, на остальные — могут быть найдены. Дело за тем, чтобы представители белорусской экономической науки примерились: по плечу ли им такая ноша, или же надо искать пророка в чужом отечестве, потому как без теории никак нельзя.

Леонид ХАНКЕВИЧ

директор ЭЦФИ БГЭУ

## ПНЗ: ХРОНІКА

Арганізацыйны сход прыхільнікаў Партыі народнай згоды адбыўся ў Бабруйску. Створаную арганізацыю ўзначаліў інжынер Валянцін Мач. Па ініцыятыве арганізацыі ў гарадскім Доме культуры адбылася сустрэча членаў выканкама ПНЗ з жыхарамі горада.

* * *

3 лютага на пасяджэнні выканкама ПНЗ заслухана інфармацыя аб сустрэчах членаў выканкама А. Алпеева, Г. Карпенкі, І. Стадуба з членамі і прыхільнікамі ПНЗ у Віцебскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцях.

Разгледжана арганізацыйнае пытанне. У сувязі з прыняццем Вярноўным Саветам Закона аб Кантрольнай палаце, які забараняе яе членам сумяшчаць сваю дзейнасць з членствам у палітычных партыях, прыпыніў сваю дзейнасць у ПНЗ народны дэпутат Васіль Даўгалёў. Па гэтай жа прычыне ён выйшаў са складу выканкама партыі.

* * *

25 студзеня 1993 г. у Доме літаратара адбылося чарговае пасяджэнне Каардынацыйнай нарады патрыятычных і дэмакратычных палітычных партый і грамадскіх рухаў. Яно было прысвечана трэцяй гадавіне прыняцця Закона аб мовах. Прысутнічалі члены кіруючых органаў БСДГ, БСП, НДПБ, АДПБ, ПНЗ (члены выканкама А. Кароль, І. Стадуб), гарадскога «Таварыства беларускай мовы», БСЗ «Бацькаўшчына», БЗВ. Удзельнікі нарады выказаліся за дакладнае выкананне Закона аб мовах.

Дысанансам прагучала заява прадстаўніка Руху за дэмакратычныя рэформы Вольгі Абрамавай, якая пысутнічала на нарадзе ў якасці назіральніка, яна настойвала на неабходнасці надання рускай мове статуса дзяржаўнай.

* * *

Глубокой озабоченностью спадом производства, ростом дороговизны и обнищания населения была продиктована встреча представителей Партии народного согласия и Федерации профсоюзов Республики Беларусь, которая состоялась 9 февраля 1993 года. От ПНС в совещании участвовали члены исполкома И. Анташкевич, А. Король, Л. Лойко, от Федерации — ее председатель В. Гончарик.

Стороны изложили свое видение экономической и политической ситуации, свои взгляды на характер и содержание программы реформ. Отмечено совпадение позиций по основным вопросам. В центре внимания участников встречи была проблема разгосударствления и приватизации государственной собственности.

По обоюдному мнению принятый Закон о приватизации повторяет многие недостатки знаменитой «ваучеризации». Т. е. грозит теми же негативными последствиями, с той лишь разницей, что госсобственность перейдет не в руки крупного капитала (у нас он не играет еще такой роли, как в Москве), а в руки власть имущих, управленческим структурам. Большинство же населения останется ни с чем, отодвинется еще дальше за черту бедности.

Дополнения и изменения, призванные закрепить интересы граждан, которые предлагала депутатская группа ПНС, Верховным Советом не были приняты. Положение, как это подчеркнули представители ПНС, еще можно исправить внесением соответствующих коррективов в разрабатываемые Совмином практические мероприятия по реализации Закона о приватизации. Участники совещания договорились совместно выработать и предложить правительству свои конкретные предложения по данному вопросу.

Решено также провести совместную научно-практическую конференцию по проблемам приватизации.

С целью укрепления и расширения сотрудничества между ПНС И Федерацией профсоюзов стороны признали необходимым проведение регулярных консультаций.

* * *

У сувязі з вялікай колькасцю тэлефонных званкоў ад нашых прыхільнікаў у рэдакцыю газеты паведамляем дадатковыя кантактныя тэлефоны: 39-87-35, 39-87-90.

Іван СТАДУБ

# КОМУ НЕ ПОДХОДИТ НАША КОНЦЕПЦИЯ ПРИВАТИЗАЦИИ?

Накануне обсуждения проекта Закона «О разгосударствлении и приватизации государственной собственности в Республике Беларусь» народным депутатам была вручена рецензия на концепцию приватизации Партии народного согласия. Рецензия отрицательная, в ней, в частности, утверждается: «1. В концепции ПНС приватизация трактуется как **процесс формирования социальной рыночной экономики**, что искажает общепринятую сущность процесса приватизации».

Резонно спросить, против какой части этой характеристики восстали рецензенты: «социальной»? «рыночной»?

Цитируем далее: «3. Концепция пронизана идеей **ведущей роли трудовых коллективов на всех этапах приватизации** и управления деятельностью предприятий.

Не отрицая необходимости обеспечения социальных гарантий трудовым коллективам приватизируемых предприятий, следует, с учетом мирового опыта и истории хозяйственных реформ в республиках бывшего Союза, весьма взвешенно подходить к этому вопросу, чтобы **чрезмерным усилением роли трудовых коллективов не затормозить приватизацию** и не превратить ее в очередную «кампанию».

Так вот где собака зарыта! Главная угроза реформам, оказывается, исходит от трудовых коллективов.

Концепция ПНС предусматривает создание банка, который бы гарантировал долю дохода от приватизации тем, кто не сможет принять непосредственное участие в ней. Рецензенты назвали этот банк «финансово-промышленной сверхмонополией».

А нам казалось, что монополии создаются финансовыми и промышленными объединениями, коррумпированной бюрократией, а не тощими приватизационными чеками вконец ограбленного народа.

Остается только назвать авторов указанной рецензии: Председатель комитета по управлению госимуществом при Совете Министров — В.П. Матюшевский, Президент Союза независимых экономистов ( по информации «Народной газеты» — советник БНФ) — П.А. Капитула, зав. кафедрой Белгосуниверситета — В.Ф. Чигир.

Но самое знаменательное, по-нашему мнению, в том, что в едином порыве против социальных гарантий выступили как представители правящих кругов, так и оппозиция БНФ.

Экономическая комиссия ПНС

МНОГОПАРТИЙНАЯ ЖИЗНЬ

# В ГОМЕЛЕ БЛИЗКИ К СОГЛАСИЮ

В Гомеле состоялась конференция представителей партий и общественных объединений области. На ней проанализирована политическая ситуация в республике и на Гомельщине, принято Заявление о создании Консультативного Совета «Гражданское действие».

В оценке политической ситуации большинство участников конференции было единодушно. Кризис, — отметили они, — поразивший нашу общественную систему, принимает все более опасный характер. Множатся очаги напряженности в экономике, социальной сфере, межнациональных отношениях. Между тем усилия демократических сил парализуются старым механизмом принятия и реализации политических решений и отжившими отношениями собственности. В этих условиях демократическим движениям нужна согласованность в действиях, совместная борьба на выборах, консультационная помощь в выборе средств для реализации своих программ. Отвечает всем этим задачам Консультативный Совет «Гражданское действие», который и создан на конференции.

В конференции приняла участие региональная организация ПНС, созданная в прошлом году в Рогачеве. Входящие в Совет организации сохраняют свою независимость.

Официальная пресса скромно осветила это событие. Тем не менее она пространно освещает происходящие сейчас в районах пленумы коммунистических партий. Остается надеяться на координирующие действия демократический сил в борьбе за достойную человеческую жизнь.

С. ЛИСОВСКИЙ






РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

# «ЗАГАДКАВЫ МІШКА САНДЫГА»

*На нарыс Алеся Марціновіча «Загадкавы Мішка Сандыга» ("Згода" NN 4,5 за 1992 год), прысвечаны жыццю і творчасці выдатнага беларускага пісьменніка Рыгора Якаўлевіча Кобеца, свой водгук даслала яго дачка — Алена Рыгораўна Кобец-Філімонава. Водгук рэзка крытычны, цалкам адмоўны. Наўмыснае скажэнне вобраза пісьменніка, яго месца і ролі ў беларускай культуры — такая агульная ацэнка ў ім нарысу А. Марціновіча. Указваюцца і фактычныя недакладнасці, памылкі. На жаль, яны сапраўды маюцца ў нарысе, асабліва ў адносінах да «гулагаўскага» перыяду жыцця Р. Кобеца.*

*Па меркаванню рэдакцыі, кожны аўтар мае права на свой уласны пункт погляду, ён жа нясе і адказнасць за памылкі. Аднак з мэтай даць найбольш поўнае ўяўленне аб жыцці і дзейнасці аднаго з буйнейшых дзеячаў беларускай культуры, які стаяў ля вытокаў нацыянальнага тэатра і кіно, мы змяшчаем вытрымкі з водгука А.Р. Кобец-Філімонавай. Даць яго цалкам не выпадае. І не толькі з-за непамерна (для газеты) вялікага аб'ёму. Мы павінны апусціць тую яго частку (большую), дзе апавядаецца аб праследаванні пісьменніка, замоўчванні яго творчасці ў 60-я і больш познія гады і ў гэтай сувязі ўпамінаецца шэраг імён сучаснікаў (пісьменнікаў, выдаўцоў, супрацоўнікаў партыйных і дзяржаўных органаў). Праверыць гэтыя факты рэдакцыі і не па сілам, і, як кажуць, «не па профілю». Выклікаць жа «цепную реакцию» крыўд і скарг — можна лёгка. Апусцілі мы, як таго і патрабуе этыка публічнага выдання, усе некарэктныя выказванні ў адрас А. Марціновіча, іншых людзей. Мы друкуем тую частку водгуку, прычым дакументальную, якая адносіцца да самых трагічных гадоў жыцця Р. Кобеца — гадоў рэпрэсій, зняволення, пакут. Але і мужнасці, сілы духу..*

Рыгор Якаўлевіч Кобец нарадзіўся ў канцы мінулага стагоддзя, таму і давялося яму шмат у чым быць першым як у галіне тэатральнага мастацтва, так і ў галіне нацыянальнага кіно (у другой палове 20-х і першай палове 30-х гадоў). Без яго імя немагчыма ўявіць сабе перыяд станаўлення беларускай культуры. Ніякіх універсітэтаў ён не канчаў, а толькі царкоўнапрыходскую школу і рэальнае вучылішча. Каб быць творцам, не абавязкова канчаць вышэйшую навучальную ўстанову. Талент — ад бога. Дык вось, дзякуючы свайму самабытнаму таленту і глыбокаму веданню жыцця, Рыгор Кобец пакінуў дужа адметны след у беларускай літаратуры. Ён быў першаадкрывальнікам, пракладваў новыя шляхі ў мастацтве тых гадоў. Яго творы аказалі вялікі ўплыў на далейшае развіццё беларускага тэатра і кіно. Яго лепшыя творы ўвайшлі ў гісторыю беларускага тэатральнага мастацтва і кінамастацтва і мелі вялікі поспех не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі.

«Гута» Р. Кобеца — першая беларуская п'еса аб рабочым класе Беларусі, якая мела вялікі поспех на першай усесаюзнай алімпіядзе тэатральнага мастацтва ў Маскве (1930 г.). П'еса «Гута» і яе пастаноўка БДТ-I (тэатрам імя Я. Купалы) была самай яркай і слаўнай старонкай ў гісторыі беларускай драматургіі і тэатральнага мастацтва. «Гута» з трыумфам ішла па ўсёй краіне. З вялікім поспехам яна ставілася ў Чэхаславакіі, Польшчы, Аўстрыі, Венгрыі. Гэта была першая беларуская п'еса, якая ставілася за мяжой (1931 г.). «Гута» прынесла Р. Кобецу славу, і ён стаў вядучым драматургам Беларусі. Вялікі поспех «Гуты» садзейнічаў таму, што Першы беларускі тэатр пачалі запрашаць на гастролі па ўсёй краіне.

Пасля заклiку беларускага ўрада дапамагчы кінамастацтву, якое толькі нараджалася, Р. Кобец прысвячае сваё жыццё кінематографу і робіцца прафесійным кінадраматургам. Ён узначальвае кінасцэнарную справу, прыцягвае да работы ў кінематографе беларускіх пісьменнікаў, што спрыяла станаўленню нацыянальнага кіно, і сам піша сцэнарыі. Спачатку стварае цэлы шэраг дакументальных стужак, пасля агітпрапфільм «Ураган». У 1931 годзе піша сцэнарый першага гукавога фільма «Двойчы народжаны» на тэму сучаснасці (пастаўлен ў 1933 г.). Гэта быў першы фільм на беларускай мове. Першы фільм на сучасную тэму. «Двойчы народжаны»— самая значная ўдача Белдзяржкіно на той час.

У 1935 годзе беларускі ўрад надае Р. Кобецу званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі за вялікі ўклад ў станаўленне і развіццё беларускага кіно. Р. Кобец — першы беларускі пісьменнік, які атрымаў такое высокае званне.

У 1936 годзе выходзіць на экран сатырычная кінакамедыя «Шукальнікі шчасця» па сэнарыю Р. Кобеца (у сааўтарстве). Карціна з вялікім поспехам прайшла па ўсёй краіне і за мяжой (ЗША, Францыі, Чэхаславакіі, Бельгіі, Германіі і шэрагу іншых краін). Праз шмат гадоў 50-годдзе гэтага кінатвора адзначала не толькі рэспубліканская прэса, але і расійская, і замежная. У 1986 годзе варшаўская газета «Голас народа» пісала: «Фільм «Шукальнікі шчасця» ... належыць да тых класічных стужак, якія ніколі не перастануць захапляць гледачоў". Такога вялікага поспеху не мела ніводная карціна кінастудыі «Савецкая Беларусь». У час вайны, яшчэ да другога арышта Р. Кобеца (1941г.), фільм дэманстраваўся на экранах, бо меў вялікія зборы, і мільёны рублёў ішлі на патрэбы фронта. Фільм час ад часу дэманструецца і сёння на экранах краіны і за мяжой, у прыватнасці, у ФРГ. У 1986 годзе маскоўскі кінапракат выпускае відыёфільм «Шукальнікі шчасця» (рэстаўрыраваны) і рассылае па ўсёй краіне. Яркія вобразы, створаныя драматургам і акцёрамі, засталіся ў памяці не аднаго пакалення гледачоў, рэплікі герояў сталі своеасаблівым фальклорам. Небывалы поспех карціны дае права называць яго класічным.

Як пісалі сумленныя мастацтвазнаўцы, «неабгрунтавана рэпрэсіраваны ў час культу асобы, Кобец напрацягу 22 гадоў быў адлучаны ад творчасці...»

Працытую адзін ліст Рыгора Якаўлевіча: «У 1936, калі я працаваў на кінастудыі « Савецкая Беларусь», у Ленінградзе, на мяне паступіў данос беларускіх пісьменнікаў І. Барашкі і Я. Бобрыка як на ворага савецкай улады. У НКУСе доўга не трымалі, бо паклепніцкія факты не пацвердзіліся. У 1937, у самы разгул крывавых рэпрэсій, адзін за адным пачалі знікаць і мае сябры, таварышы. Я разумеў, што хутка дабяруцца і да мяне, і вырашыў на нейкі час, пакуль скончыцца «эпідэмія», пакінуць Беларусь. Узяў творчую камандзіроўку ад саюза пісьменнікаў Беларусі і паехаў на Далёкі Усход пісаць другую серыю фільма «Шукальнікі шчасця». Але гэта мяне не выратавала. 15 ліпеня 1938 года я быў арыштаваны органамі НКУС у Бірабіджане пасля таго, як у газеце «Биробиджанская звезда» з'явіўся артыкул «Политическое лицо Г. Кобеца», пад якім стаяла прозвішча — Мінскер. (Пад гэтым псеўданімам хаваўся галоўны рэдактар газеты Г. Казакевіч). У артыкуле было аб тым, што я ішоў па вуліцы і павітаўся за руку з «ворагам народа», спыніўся і размаўляў з ім, значыць, я таксама вораг народа. У той час гэтай публікацыі было дастаткова для арышту. НКУС абвініў мяне ў шпіянажы на карысць Японіі, Англіі, Польшчы. Пачаліся допыты з пострахам. Мяне білі, мучылі бяссоніцай. Перацерабілі ўсю маю біяграфію з самага дня нараджэння. 6 месяцаў сядзеў у турме, пакуль вялося следства. Следчы — Аляксееў. Я адмаўляўся ад недарэчных абвінавачванняў і ў знак пратэсту аб'явіў галадоўку. Галадаў дзесяць сутак. На 11-я мяне вывелі на суд. Старшыня суда — Пярлоў, пракурор — Рабкін. І на гэты раз мне пашчасціла: па прыгавору суда Яўрэйскай Аўтаномнай вобласці 5 сакавіка 1939 года я быў апраўданы і тут жа на судзе вызвалены з-пад варты.

Другі раз я быў арыштаваны ў Хабараўску 5 снежня 1941 года па загаду начальніка УНКУС Хабараўскага краю Гаглідзе, памагатага Берыі. Матывы новага арышту: «Вы слишком резко критикуете Сталина. Вы враждебно о нем высказываетесь, называете деспотом» і г. д. Вочную стаўку даў мне пісьменнік Д. Нагішкін, які на мяне данёс. Пасля доўгага следства справу пераслалі на папярэдні разгляд краявога суда. Там адказалі: «Судить не можем в связи с отсутствием состава преступления». Тады маю справу перадалі ў рэўтрыбунал, але і там была прынята такая ж рэзалюцыя. (Следства, як і ў першы арышт, вёў следчы Аляксееў. Пасля гэтага маю справу направілі не ў суд, а ў Спецыяльную Нараду, магчыма баючыся, што суд мяне зноў апраўдае. К таму часу я страшэнна стаміўся ад пакутлівых допытаў і бяссоніц, быў абыякавы да ўсяго, не хацелася жыць. Тады мне прапанавалі напісаць просьбу аб памілаванні. Адмовіўся катэгарычна, таму што не лічыў сябе вінаватым.Пасля гэтага пастановай Спецыяльнай Нарады НКУС СССР ад 4 лістапада 1942 г. (справа N 331 УНКУС Хабараўскага краю) без суда і следства, а значыць без кваліфікацыі маіх дзеянняў, я незаконна быў пазбаўлен свабоды тэрмінам на 10 год з адбыццём пакарання ў лагерах (ППЛ).

Будаваў чыгунку на Тайшэце, потым мяне перакінулі ў Манголію (і там будаваў чыгунку), зноў у Сібір на раку Лену, затым перавялі на бераг Ангары (ў Забайкаллі) і тут я адбыў свой тэрмін. Ад званка да званка. Вызвалілі мяне ў г. Заярску і «прапанавалі» пажыццёвую ссылку ў кіргізскія стэпы без права пражывання ў сталіцах і абласных гарадах. 19 лістапада 1960 г. Прэзідыум Хабараўскага краявога суда перагледзеў маю справу, і я быў поўнасцю рэабілітаваны. У Беларусі аднавілі ўсе мае правы, далі кватэру, персанальную пенсію рэспубліканскага значэння. Я зноў стаў чалавекам..."

А вось як піша пра гэты перыяд нечалавечых пакут А. Марціновіч: «4 ліпеня 1938 года Р. Кобеца ўсё ж арыштавалі, але лёс зноў аказаўся спагадлівым да яго. Хоць следства і працягвалася некалькі месяцаў, Рыгор Якаўлевіч быў вызвалены з-пад варты. Тым не менш давялося на цэлых дваццаць гадоў развітацца з Беларуссю. Жыў Р. Кобец у Хабараўску: пісаў нарысы, вершы, байкі, фельетоны, артыкулы, п'есы, у гады вайны разам з далёкаўсходнімі мастакамі выпускаў сатырычныя плакаты». Вось як прадставіў А. Марціновіч 22 гады рэпрэсій майго бацькі, увёўшы ў падман чытачоў газеты «Згода». Замест турмаў, лагераў і ссылкі — 20 гадоў спакойнага , шчаслівага жыцця (нават у час вайны) у Хабараўску.

**А. КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА**

СССР

МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ

Форма «А»

ВИДОМ НА ЖИТЕЛЬСТВО НЕ СЛУЖИТ. ПРИ УТЕРЕ НЕ ВОЗОБНОВЛЯЕТСЯ.

Лагерь ... «27» октября 1951 г.

СПРАВКА №0047778

Выдана гражданину(ке) Кобец Григорию Яковлевичу он же Сандыга Михаил ...

1898 года рождения, уроженцу(ке) ...

гражданство (подданство) СССР национальность белорус

осужденному(ой) по делу 331 УНКВД Хабаровского края

«4» ноября 1942 г. по ст.ст. — УК

к лишению свободы на десять лет с поражением в правах на нет года, имеющему(ей) в прошлом судимость не судимый

в том, что он (она) отбывал(ла) наказание в местах заключения МВД по «27» октября 1951 г. и по отбытию срока с зачетом рабочих дней

С применением

Освобожден(на) «27» октября 1951 г. и следует к избранному месту жительства Калининский р-н Фрунзенской обл.

(город, село, дер., район, область)

до ст. Карабалты Турксиб жел. дороги

Начальник лагеря

Нач. ОУРЗ (УРЧ)

Печать

РСФСР
ХАБАРОВСКИЙ
КРАЕВОЙ СУД

Гр. КОБЕЦ Григорию Яковлевичу-гор. Минск-Областной, ул. Октябрьская 13 к.

Отдел с/ч

28. ноября 1960 г.

№ 44-У-176-60

г. Хабаровск
Комсомольская, 52, тел. 3-10-73

-Справка-

Дело по обвинению КОБЕЦ Григория Яковлевича, 1898 года рождения, до ареста работавшего редактором киностудии в гор. Хабаровске, пересмотрено Президиумом Хабаровского Краевого суда 19-го ноября 1960 года.

Постановление Особого Совещания при Народном Комиссаре Внутренних дел СССР от 4 ноября 1942 года отменено и дело в отношении КОБЕЦ Г.Я. производством прекращено за отсутствием в его действиях состава преступления.

Председатель Хабаровского Краевого суда / М.Иванов /

Инспектор с/ч краевого суда / М.Белова /

2870

Мікола КАПЫЛОВІЧ З ЧАРНОБЫЛЬСКАГА БЛАКНОТА

# ХВОРЫ ХЛОПЧЫК

У тую суботу я выбраўся паехаць да сястры ў Мазыр. Похапкам купіў пляменніку цукерак, пайшоў на брагінскі аўтавакзал, набыў білет, сеў на лаўку і пачаў чакаць аўтобус. І не заўважыў, як да мяне падселі двое: маладая жанчына і хлопчык. «Маці і сын», — здагадаўся я. Жанчына прытульвала свайго малога да сябе, ласкава гладзіла яго па галаве:

— Хутка, Мішка, будзем дома. Там нас чакае бабуля.

— Ага, — выдыхнуў нейкім старэчым голасам хлопчык.

На яго я і звярнуў увагу. Было на выгляд хлопчыку гадоў дзесяцьадзінаццаць. Апрануты ў цёплую блакітную куртачку, абуты ў кеды, на галаве — спартыўнага крою шапачкапеўнік. Асабліва кінулася ў вочы тое, што шыя хлопчыка была абвязана марляю.

— Прастудзіўся? — спытаў я ў жанчыны.

— Дзе там! — махнула яна рукою. — Шчытавідка! Трэці год ужо кволіцца на горла. Куды яго толькі не вазіла, дзе толькі не лячыла — нічога не памагае. Вось і зараз з Гомеля едзем. Два месяцы ляжаў там у анкалагічнай бальніцы. Цяпер дамоў едзем, пад Камарын. Трохі пабудзе дома і зноў — у бальніцу. Вось што нам радыяцыя нарабіла.

Адказала спакойна, нібы паведаміла пра звычайную будзенную справу — звыклася, няйначай, за гэтыя тры гады са сваім горам, — хоць у яе голасе ўсё ж адчуваліся трывога і адчай за здароўе сына.

І зноў пачала шкадаваць, прытульваць да сябе сына:

— Бабулька, Мішка, даўно нас чакае. Гасцінцаў табе падрыхтавала.

Хлопчык маўчаў. Яму, разумеў я, цяжка было гаварыць, бо балела горла.

— Цяпер на аздараўленне возяць чарнобыльскіх дзяцей за мяжу. Адправілі б і вы туды свайго Мішку, — параіў я жанчыне.

Параіў і тут жа зразумеў, што сказаў нешта не тое, балюча закрануў сэрца маці, бо голас жанчыны задрыжэў:

— Яго ж лячыць трэба, а не аздараўляць! Аперацыю трэба рабіць за мяжою. А дзе я тыя грошы вазьму на гэта? Калгасніца ж я. І ўжо трэці год не працую. Усё па бальніцах з сынам езджу.

Я зірнуў на маці Мішкі — тая ўжо плакала, выціраючы вочы хусцінкай.

— Не плач, мама! — вырваўся раптам хрыпаты голас з вуснаў хлопчыка. — Не трэба мне тая аперацыя. Я сам папраўлюся.

Цяпер ужо сын шкадаваў і суцяшаў маці, гладзіў яе руку, што ляжала на каленях хлопчыка.

Сэрца маё балюча сціснулася. І я, каб неяк суцешыць, задобрыць сына і маці, суняць іх гора, палез у сваю сумку, выняў з яе кулёк цукерак і працягнуў хлопчыку.

— Вазьмі, Мішка!

Ён зірнуў мне ў вочы ўдзячлівым позіркам, але цукерак чамусьці не браў — саромеўся.

— Бяры, бяры, — кажу. — У мяне іх багата. Поўная сумка.

Ён нясмела працягнуў руку, узяў кулёк з цукеркамі і запіхнуў яго ў кішэню курткі.

— Сам есці не буду, бо горла баліць. Бабулі цукеркі завязу. Няхай смокча.

Нарэшце, мне пара было ехаць. Я развітаўся з Мішкам і яго маці, палез у дзверы аўтобуса. Заняў у салоне сваё месца і вызірнуў у адчыненае акно. Мішка стаяў каля аўтобуса, сумным маўклівым позіркам глядзеў на мяне і памахваў рукою — развітваўся.

З таго часу прайшло больш года, і я, калі прыгадваю Брагін, дзе давялося працаваць у рэдакцыі, кожны раз думаю пра хворага хлопчыка, з якім развітаўся на аўтавакзале. Дзе ты цяпер, Мішка? Ці зрабілі табе аперацыю? Ці хоць жывы ты?

# МОР

Мы ехалі рэдакцыйнай машынай у Камарын праз зону адчужэння, з якой адразу пасля аварыі на ЧАЭС высялілі ўсіх жыхароў.

Паабапал шашы — здзічэлыя, зарослыя быльнягом і ніцым хмызам палі сенажаці. Пакінутыя хаты зеўраюць на белы свет чорнымі, вытрушчанымі вокнамі. Вочы звыкла шукаюць у наваколлі нешта жывое, але нідзе не знаходзяць. Ні людзей, ні жывёл, ні птушак. Толькі на ссохлых дрэвах сіратліва нудзяцца пакінутыя буслам гнёзды. Буслы ўжо не прылятаюць сюды з выраю — таксама падаліся некуды разам з людзьмі шукаць і ладзіць новае сабе жыццё, жытло. Раптам позірк чапляецца за апусцелыя пяціпавярховыя дамы, што ўзвышаліся збоч шашы, ваданапорную вежу і шырокі гмах жывёлагадоўчага комплексу.

— Тут да аварыі быў саўгас «Сонечны», — растлумачыў мне шафёр. — Багатая была гаспадарка. Нават рыбу ў возеры саўгас гадаваў для сваіх рабочых.

— Давай зазірнём на гэта возера, — кажу яму.

— Давай, — згадзіўся шафёр.

Машына збочыла з шашы на дарогу, якую густа заглушыў дзядоўнік і быльнёг, натужна і марудна пасунулася наперад па старых каляінах, і было чуваць, як па яе днішчы шкраблося і шуршэла леташняе ссохлае бадылле.

А вось і возера. Мы выйшлі з машыны, ступілі на зямлю. У роце зрабілася пякуча і кісла — знак высокага радыяцыйнага фону. Доўга тут быць, разумелі, было небяспечна, але мы ўсё ж такі пастаялі некалькі хвілін на беразе возера. Шырокае і прасторнае, яно скрозь было зацягнута зялёнаю коўдраю жабурыння. Сям-там з гэтай зялёнай твані тырчэлі касмылі рудой асакі. І — ні аднаго жывога гуку, хоць і быў пачатак лета. Возера агарнула такая нямая цішыня, што аж калола ў вушах. Гэтая гнятлівая немата міжволі закрадвалася ў сэрца, вярэдзіла душу. І грудзі сціскала холадам і здзічэлай нудою.

Ступілі бліжэй да вады — у нос ударыла смуродам. І толькі тут мы ўбачылі пад самым берагам у вадзе дохлую рыбу. Нежывыя акуні, язі, карпы пластом ляжалі на паверхі возера і паблісквалі на сонцы срэбнай лускою.

— Шкада рыбы, — уздыхнуў я. — Мор згубіў.

— Мор бывае толькі зімою, — запярэчыў шафёр. — Калі цісне мароз, таўшчэе лёд і рыбе няма прадухі. А тут яна радыяцыі нахапалася, вось і выдахла...

Глядзеў я на возера і прыгадваў частыя выпадкі смерці сярод палешукоў. Іх таксама косіць радыяцыйны мор. І — ніякай прадухі.

# ХТО З'ЕЎ ІКРУ?

На гэтае пытанне не можа даць ніхто адказ і зараз. А скалыхнула яно Брагін і раён два гады назад.

Рэспубліканскае і абласное радыё паведамілі, што адзін з рыбалавецкіх калгасаў Камчаткі адправіў для дашкольных устаноў раёнаў Гомельшчыны, што пацярпелі ад аварыі ў Чарнобылі, цэнтнер чорнай ікры. У добрай весткі — моцныя крылы. Яны данеслі гэтую вестку да Брагіна, які найбольш, вядома, пацярпеў ад радыяцыі. Старшыня райспажыўсаюза пазваніў у абласны цэнтр. Яму адказалі:

— Пры размеркаванні дзецям раёна выдзелена чатырнаццаць кілаграмаў ікры. Хутка атрымаеце. Прасачыце, каб яна ўся, да апошняга зярняці трапіла ў дзіцячыя садзікі.

— Пра гэта не хвалюйцеся, — запэўніў той, — размяркуем ікру як мае быць. Толькі прысылайце. Памыліўся старшыня. Час ішоў, а ікра ў Брагін не ішла. Згубілася недзе па дарозе ў садзікі. Нехта паклаў, няйначай, на яе сваю касматую руку. Але крымінальная справа, якую ўзбудзілі, павісла ў паветры...

Дзе ж заблудзіўся, нарэшце, падарунак рыбакоў? Хто з'еў ікру? Пра гэта і цяпер ніхто не ведае. А калі і ведае, дык хіба прызнаецца?

# З КАРОВАЮ Я — ЧАЛАВЕК!

Парыпваючы і пахістваючыся, па вечаровай вуліцы плыве вялізны воз сена. З сена тырчаць ногі ў старых, дзіравых пантофлях. А далей там — хто? Дзе ж гаспадар гэтых пантофляў? Гаспадар паказаўся, калі воз праціснуўся праз вароты ў двор і з яго ссунулася на зямлю старэнькая сінявокая бабулька. Задыханая, нямоглая — ледзь на нагах стаіць.

— Навошта так гаруеце? Хіба ў вашыя гады сена касіць, сушыць ды вазіць? Куды ж дзеці глядзяць?

— Дзеці? — зірнула яна на мяне з-пад насунутай на лоб хусткі. — Дзеці даўно ўжо пасля гэтага Чарнобля ў горад з'ехалі. І мяне запрашаюць да сябе. Маўляў, тут нельга жыць.

— Дык чаму ж да іх не едзеце?

— Я рабіць хачу.

— Рабіць і ў горадзе можна.

— Не па нутры мне гарадская работа. Зануджуся, змарнею я там. Я ў вёсцы расла. Мне найперш каб карова была. Увечары кладзешся спаць, думаеш пра яе, раніцай падымаешся з клопатам пра яе. А ноччу прахопішся: «Як там мая Зорка ў хляве?» А там, у горадзе, пра што будзеш думаць? Карову ж у горад не возьмеш. Не, не, чалавеча, без каровы жыццё — не жыццё. З каровай я — чалавек!

# ЯБЛЫКІ

Брагінскі кірмаш. Тут прадаюць часнок, цыбулю, слівы, грушы і яблыкі. Падыходжу да бабулі. Яна расклала на хусцінцы яблыкі, сама сядзіць на драўлянай скрынцы. Мне адразу чамусьці спадабаліся яблыкі. Нават зярняткі ў іх былі відаць. Белы наліў. Цікаўлюся:

— Адкуль, бабуля, яблыкі?

— З Храпавіч. Бяры, дзетка. Дорага табе не будзе. Яны чысценькія, пад радыяцыяй не былі. Бог мілаваў.

Купіў, бо ведаў, што Храпавічы — адна з нешматлікіх вёсак Брагіншчыны, якую абмінула чарнобыльская бяда. Там вяскоўцам дазваляецца есці гародніну, садавіну, усё тое, што гадуецца і расце ў дварах, хлявах і агародах.

На другі дзень іду раніцай вузкім завулкам мястэчка і раптам у адным з двароў бачу знаёмую бабульку, якая ўчора прадала мне яблыкі.

— Вось дзе храпавіцкія яблыкі растуць! — выгукнуў я. — І як вам не сорамна людзям атраву прадаваць.

Яна пазнала мяне, зніякавела:

— Хіба ж гэта атрава? Я ж і кампот з гэтых яблыкаў нарыхтавала, на зіму насушыла, і сама іх ем, вось глядзі.

Абцерла аб фартух яблык і паднесла да рота, адкусіла.

— Чаму ж тады падманулі мяне, што яблыкі з Храпавіч?

— Каб купіў, дзетка, — шчыра прызналася яна.

Я нічога не сказаў і пайшоў далей. Ішоў і чуў за спіною яе голас:

— Хіба я хацела цябе падмануць ці пакрыўдзіць. Пенсія ў мяне маленькая. Адна жыву. І помачы ніякай няма ні ад каго. І нікуды не высяляюць ад гэтай радыяцыі. Вось і прадаю яблыкі, збіраю сабе грошы на труну, бо хутка, мабыць, памру.

Я азірнуўся — бабулька стаяла пад яблыняй і плакала.

# ПА ДЗІЦЯЧАМУ КРЫКУ ЗАСУМАВАЛА

Зялёнымі ўзгоркамі, гайкамі і палеткамі іду і аднойчы прыходжу ў вёску, шырокую вуліцу якой зацягнула густою травой — дзяцелінай. І на той траве не відаць следу ні адной падводы ці машыны.

Каля першага дома на прызбе сядзіць старая бабуля. Сядзіць, абапёршыся вострым падбародкам на кіёк, і плача.

— Што, бабуля, здарылася? Чаму ты плачаш?

— Ад суму, родненькі. Па дзіцячаму крыку засумавала. Раней у нас улетку ўся вёска звінела дзіцячымі галасамі, а цяпер ні аднаго дзіцяці не засталося ў вёсцы. Вывезлі ўсіх у белы свет пасля аварыі. І аглухла вёска.

# ГУСІ ЗІМУЮЦЬ НА БРАГІНЦЫ

Гусіныя чароды праляцелі над Брагінам, як звычайна, у звычайны для пералётаў час. І жураўліныя таксама. Іх курлыканне наводзіла на душу смутак і журбу. Птушкі ляцелі зімаваць у цёплыя краіны.

Нікуды толькі не спяшаецца, не выязджае шмат хто з брагінцаў, хоць ім даўно пара шукаць для сябе лепшы край. Мяккія, рахманыя па характары яны чакаюць парадку і чаргі ў адсяленні і спадзяюцца на высокае начальства.

Як бы падзяляючы свой лёс з людскім лёсам, адна гусіная чарада як села на балота, што злілося паводкаю з рэчкай Брагінкай, так і сядзіць зараз, хаця на двары першы дзень зімы.

— Гусі цёплую зіму чуюць, — кажуць старыя людзі. — Будуць з намі зімаваць. Весялей будзе чакаць таго часу, калі высяляць.

А ці хутка надыйдзе той час? Ніхто не ведае.

# «ШАЛЁНЫ КАЎНЕР»

У «чорнай зоне» выяўлена шаленства драпежнікаў. Сярод лісаў. Галоўны паляўнічазнаўца раёна забіў трывогу. Быў арганізаваны адстрэл, каб папярэдзіць небяспеку. А лісы з-за калючага дроту палезлі ў зону адсялення. Былі выпадкі, калі яны нават пачалі нападаць на сабак, якія дапамагалі пастухам пасвіць жывёлу.

Трывожная вестка прыйшла з адной вёскі. Там два лісы бадзяюцца па вуліцах, накідваюцца на дзяцей. Калі туды тэрмінова прыехаў паляўнічазнаўца, лясныя зладзейкі былі ўжо забіты. Але ж візіт галоўнага паляўнічага раёна быў вельмі дарэчы, бо з аднаго ліса ўжо мерыліся зняць футра.

— Будзе каўнер на паліто жонцы, — сказаў адзін са скуралупаў.

— Асцярожна, каўнер шалёны! — строга папярэдзіў яго паляўнічазнаўца.

І мёртвых звяроў закапалі глыбока ў зямлю.

# ПАКІНУТЫ КОТ

Гаспадары пры адсяленні з радыяцыйнага Брагіна пакінулі родную хату. Пад Мінскам атрымалі новую кватэру.

І ў перадад'езднай мітусні забыліся пра ката. Ды і сам ён (у двары былі чужыя людзі) далей ад граха схаваўся ў хлеў. І пачалося ў яго цяжкае жыццё, бо гаспадыня ўжо не карміла ката малаком ды мясам. Ежу давялося яму здабываць самому. І ён рабіў гэта. Не разгубіўся. Бачыў я, як ён падпільноўваў разяву-вераб'я. Смачна яго з'еў і неяк з'едліва паглядзеў на мяне сваімі зялёнымі вачыма, аблізваючы ружовым языком белыя вусы.

А нядаўна гаспадыня прыехала ў Брагін па нейкія паперы. Зайшла ў родны двор. Кот тут як тут. Кінуўся ёй на рукі і пачаў лашчыцца, муркатаць ад радасці. І ніяк не хацеў злазіць з рук. Так і паехаў з гаспадыняй пад Мінск: пэўна на раду коціку быў вызначаны лёс — жыць і памерці ў гэтай сям'і.

# РОДНАЕ ГНЯЗДО

Сцяпан пасля чарнобыльскай аварыі апошні пераехаў з хутара ў вялікую вёску. Дзяржава адбудавала яму дом амаль у самым цэнтры саўгаса. Усё пад рукою, усё паблізу: магазін, пошта, сельсавет. У першыя два тыдні ён не мог нарадавацца сваім новым жыццём. А потым пачалі людзі заўважаць: у Сцяпана адна дарога кожны дзень — у далёкі канец вёскі, на бераг Дняпра.

Выйдзе на высокі бераг, стане каля старой хвоі і гадзінамі са слязьмі на вачах глядзіць на тое месца, дзе пасля аварыі пахаваны, закапаны бульдозерамі яго хутар, дзе яшчэ нядаўна стаяла яго родная хата, дымілася старая, яшчэ бацькам змураваная печ.

Заснавальнікі:
Партыя народнай згоды, калектыў рэдакцыі.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не абавязкова супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Тэлефоны:
Леанід ЛОЙКА (рэдактар) — 32-35-94;
супрацоўнікі рэдакцыі:
Аляксей КАРОЛЬ — 32-01-84;
Ігар РЫЖКОЎ— 32-04-31. Зак. 279

Рэдакцыйная калегія
Наш адрас:
220041, Мінск,
праспект
Ф. Скарыны, 79.

Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Індэкс 63138, тыраж 7000